# Трыбуна чытачоў



Прыгожанькі домік, праўда? Такіх аднасямейных домікаў многа ёсць у гарадах. Але не толькі ў гарадах.

На здымку вы бачыце домік Станіслава Янушкевіча з вёскі Маліннікі (Бельскі павет). У гэтай вёсцы шмат такіх дамоў. Сяляне ўсё больш і больш будуюць не драўляныя, а цагляныя дамы.

Фота: мх.

ФАЛЬКЛОР БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

## А МОЙ МІЛЫ ЗАХВАРЭЎ

**А мой мілы захварэў,**
**Кіселіку захацеў.**
**Ох, ну, ды ах, ну,**
**Кіселіку захацеў!**

**Ой, цыц, мілы, не ўмірай,**
**Кіселіку дажыдай.**
**Ох, ну, ды ах, ну,**
**Кіселіку дажыдай!**

**Пашла баба па селу**
**Пазычаці кіселю.**
**Ох, ну, ды ах, ну,**
**Пазычаці кіселю!**

**Не дастала кіселю,**
**А дастала аўса.**
**Ох, ну, ды ах, ну,**
**А дастала аўса!**

**Намачыла кісель**
**На 12 нядзель.**
**Ох, ну, ды ах, ну,**
**На 12 нядзель!**

**На баране цадзіла,**
**А на лёдзе варыла.**
**Ох, ну, ды ах, ну,**
**А на лёдзе варыла!**

**Пакуль кісель кіпеў,**
**Мой міленькі адубеў.**
**Ох, ну, ды ах, ну,**
**Мой міленькі адубеў!**

**Як на покуце ляжаў,**
**Яшчэ было трошкі жаль.**
**Ох, ну, ды ах, ну,**
**Яшчэ было трошкі жаль!**

**Як вывелі за сяло,**
**Ужо стало весело.**
**Ох, ну, ды ах, ну,**
**Ужо стало весело.**

**Ад сваёй бабулі з Галяковай Шыі запісала Галя Шаняўская.**




**Дарагое СЭРЦАЙКА!**

**Я заўсёды чытаю «Ніву», а найбольш мяне цікавяць твае парады. Бачу, што ты, «Сэрцайка», многа ўсяго добрага раіш людзям. Я хачу запытацца, ці і мне параіш у маёй справе. Ці магу я карыстацца «Календаром малжэньства», калі менструацыя ў мяне выступае што 24 дні.**

**Вельмі прашу, дарагое «Сэрцайка», парай мне, бо саромлюся пытаць каго - небудзь, а пісьмова аднак адважылася цябе запытаць.**

**Оля,** з вёскі М.
Бельскі павет.

**Дарагая Оля!**

**Карыстанне «Календаром малжэньства», як гавораць лекары, не гарантуе ў 100 працэнтах пэўнасці, таму заляцаюць карыстацца ім асцярожна і толькі тым жанчынам, якія сапраўды маюць рэгулярную менструацыю. А калі ты маеш у сябе гэты каляндар, дык прачытай уважліва уступ у календары.**

**Я са свайго боку раіла б табе лепш стасаваць прэзерватывы «Ultra», гэта больш пэўны сродак, а таксама глабулькі «Zet». Гэтыя сродкі можна купіць у кожнай аптэцы і драгерыі, а таксама ў кіёску «Рух».**

**СЭРЦАЙКА**

З ПІСЕМ ЗЕМЛЯКОЎ

## СЫНОК ЖОРЖЫК

Людскія дзеці не толькі бацькоў сваіх паважаюць, але і да чалавека чужога маюць пашану такую самую, словам непрыстойным не прагаворацца, ды ў школе з іх кіраўнік задаволены. Але вось бачу, як гадуюць сынка свайго суседзі нашы Іван з Аксанаю. Жоржыку іхняму ўжо хіба з пятнаццаць год мінула, бо ў сёмым класе вучыцца, а надакучлівым зрабіўся, ратунку ніякага перад ім няма шака!..

Летам па садах адно чапляецца, хаця і ў іх саміх слівы, як бульбіны тыя, выспяваюць у жніво аўсянае, і яблыкі сочныя. Але яму, Жоржыку, не ў ядзе справа, для разбэшчанасці крадзе, ды годзі! З голлем выскубе, паламае, аж шкада глядзець на яблыні панішчаныя. Зіма настане, шайку сабе збярэ з такіх, як ён, сані з панадворкаў валакуць патайком, каб на горцы пакатацца і пасля пакінуць іх дзесьці ў полі: шукай тады цэлымі днямі хоць галаву скруці, добра, што яшчэ аглоблі пад плотам пакінуць.

Часамі ўспамяне хтосьці Івану пра Жоржыкавы выбрыкі, дакажуць дзеці другія аб ім, прыходзіць дзядзька праз дзён пару з крыўдаю да хаты Іванавай, але той усяго агукнецца, нібы чаго да яго сына прыдзіркі шукаюць! Тут-як-тут Аксана з'явіцца бы з-пад зямлі, паспявай чалавеча хутчэй уцячы ад ляманту яе вісклівага, бо залае, з балотам змяшае зусім. Не смей аказацца пра Жоржыкавы брыдкасці, ён сынок каханы, не прымяраючы, як анёл чысцюсенькі, бязгрэшны, а людзі злыя ўсё на яго даносяць!?...

Вырастае ён на хулігана праўдзівага, вучыцца, абы з рук збыць, па два гады ў адным і тым жа класе зімуе. Буяніць вечарамі пазавугеллю з кавалерамі, якія нагаварваюць яго, каб вераб'і кідаў праз люфцік у хату, дзе дзяўчаты збіраюцца на пасядушкі. А на Каляды звязду такую насіў са спольнікамі і гаспадынь віншавалі, за што пачастункі розныя атрымоўвалі разам. Малышы гурбою ўслед за імі клубаваліся, тады нагаварылі Жоржыка кавалеры тыя, каб разагнаў ён дзетвару непатрэбную. Так яно і сталася. Жоржык, доўга не думаючы, выхапіў ножыка з кішэні і нагнаў пару саплякоў, і кажушкі парэзаў ім паласамі.

Назаўтра пайшлі маткі да Івана і Аксаны са сваркаю, то ім нат' не схацелі паверыць, а Іван наканец сказаў, што маладзец Жоржык, бо чаго яны, значыць, малыя адусюль, хадзілі следам; мала, што кажухі парэзаў, павінен быў яшчэ насы расхвастаць шпукам смаркатым.

Цяпер, на Вялікдзень, з валачобнікамі цягаўся начамі, аж да ранку. Сама бачыла, як п'яным валяўся пад плотам у гразі, не могучы дзвярэй намацаць да хаты сваёй, а на другі дзень, пад вечар, у краме віно хляптаў ад смагі вялікай, усю бутэльку выцадзіў адразу быццам чай салодкі; а спольнікі яго-ныя, бамбізы васемнаццацігадовыя, клеплюць па плячы і хваляць за галаву моцную да гарэлкі і поскудзі ўсякай праціўнай.

Дзе ж такому распусніку навука ў галаву будзе лезці, калі ўжо за папойкамі разглядацца пачаў, дзевак шчыпае і па забавах разбіваецца, нажом замахваецца, як кажуць, да валацугі прыпадобніўся, чысты цыган.

Дачакаецца Іван з сына гора на старасць, самога яго пачне лупіць, як толькі падрасце да войска... Цацкае, глядзіць бяду, і не агледзіцца, калі з хаты ўцякаць давядзецца за кавалкам хлеба жабрачага, чаго добрага, горла падрэжа, каб ногі выцягнуў бацька лішні... Няйначай і Аксанцы гэтай ганарыстай не раз яшчэ слёзы пацякуць ад рукі сынавай такой...

**АДОЛЬ КАСТРЫЦА**

## Крама без шыльды

У вёсцы Піражкі, Сакольскага павета, ёсць крама, якая змяшчаецца ў каморцы грам. Аляксандра Крыштаповіча. Каб зайсці ў краму, трэба праходзіць праз сені гаспадара. А ў сенях, як вядома на вёсцы, таўчэцца цеста свіням, стаяць рашкі. Тут вясною і летам маюць зборышча мухі. І як толькі адчыніш дзверы ў краму, усе яны пнуцца туды. Прадаўшчыца Кузміцкая не можа даць рады мухам.

Крама не мае шыльды. І калі хто чужы хоча зайсці ў краму, каб купіць чаго, пытаецца людзей, дзе знаходзіцца крама, а потым шукае па ўсіх хатах. Трэба, каб жыхары Піражкоў і Астраўка падумалі аб новай краме і прыступілі да яе пабудовы, не чакаючы, калі ГС у Крынках пачне будаваць, таму што ГС у Крынках на 1963/64 гады запланавала пабудаваць крамы ў Бабіках, Кнышэвічах, Шудзялаве, Крушынянах, Талькоўшчыне, Гуранах і іншых. Вёска Піражкі ў план не ўваходзіць.

**Сцяпан Кузьма**

## КІНО

**Праграма на 24—30.VI.1963 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Torreador" (meksykański). 25—27. „Czternaście dni" (jugosł.), 28—30.

**Кляшчэлі**
„Ruda Julka" (franc.). 25—27. „Spotkanie w „Bajce" (polski), 28—30.

**Навасады**
„Ukryte skarby" (czeski); 21—30.

**Нараў**
„Rodzina Milcarków" (polski), 26—30.

**Нараўка**
„Dziewczyna z dobrego domu" (polski), 26—30.

**Чаромуха**
„Śladami Ikara" (radz.), 25—27. „Dom na rozstajach" (radz.). 28—30.

**Чыжы**
„Jadą goście, jadą" 26—30.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Alibi nie wystarczy" (czeski), 26—30.

**Бранск**
„Księga dżungli" (ang.), 25—27. „Wielka, większa i największa" (polski). 28—30.

**Гродзіск**
„Komedianty" (polski), 26—30.

**Орля**
„Pierwszy lot w Kosmos" (radz.), 26—30.

**Рэйск**
„Dwaj panowie N" (polski), 26—30.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Pod słońcem Indii" (hinduski). 25—27. „Kolorowe pończochy" (polski), 28—30.

**Міхалова**
„Przygody Munchhausena" (czeski), 25—27. „Na białym szlaku" (polski), 28—30.

**Супрасль**
„Skradziono bombę" (rumuński). 25—27. „Sami na oceanie" (radz.), 28—30.

**Чорна Беластоцкая**
„Ożeniłem się z czarownicą" (franc.). 25—27. „Na scenach świata" (rumuński), 28—30.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Мельнік**
„Rok przestępny" (radz.). 25—27. „Kolorowe pończochy" (polski). 27—30.

**Мілейчыцы**
„Piąty wydział" (czeski). 25—27. „Dom na rozstajach" (radz.). 28—30.

**Нурэц**
„Ostatni świadek" (NRF). 24—26. „Na białym szlaku" (polski), 27—30.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Dwie strony medalu" (angl.); 25—27. „Głos z tamtego świata" (polski). 28—30.

**Сухаволя**
„Skrawek błękitnego nieba" (jugosł.). 25—27. „Ogniomistrz Kaleń" (polski), 28—30.

**Шудзялава**
„Żebro Adama" (USA), 26—30.

**Сідра**
„SOS na Pacyfiku" (angl.). 24—26. „Spóźnieni przechodnie" (polski). 27—30.

**Янаў**
„Globke — biurokrata śmierci" (NRD), 25—27.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Ліпск**
„Z soboty na niedzielę" (angl.), 29—30.

**Новы Двор**
„Bitwa o Kozi Dwór" (polski), 29—30.

**(Працяг са стар. 3)**

— Не, я сур'ёзна. Усе ў адзін голас цвярдзяць: такога спецыяліста, як вы...

Ён не дагаварыў. Падыйшоў кельнер. Пана Вісбаха выклікалі да тэлефона.

Тэлефонная размова была кароткая, але яна выклікала ў агента прыліў радаснага хвалявання.

Плануючы камбінацыю, Аскер думаў так: пагутарыўшы па тэлефону з «Хоманам», зваршчык Вісбах, калі ён агент контрразведкі, абавязкова будзе старацца адразу ж звязацца са сваімі гаспадарамі. Зрабіць гэта Вісбах можа дзвюма спосабамі — па тэлефону або пры асабістай сустрэчы.

Калі б Вісбах пачаў званіць, гутарку падслухаў бы гардэробшчык. Але зваршчык тэлефонам не карыстаўся: Аскер, выбраўшы момант, сустрэўся позіркам з Дзітрыхам, і той адмоўна кіўнуў галавой. Значыць, застаецца другі варыянт. Вывад: за Вісбахам трэба сачыць.

Вісбах пасядзеў за столікам яшчэ крыху. Аскер бачыў: ён нервуецца. Вось ён устаў, папрасіў прабачэння: званілі з завода, нейкая тэрміновая праца, ён павінен ісці. Аскер яго не затрымліваў.

Зваршчык выйшаў. Следам за ім пакінуў бар і разведчык.

Шуберт і Шталекер чакалі непадалёку. Усе трое рушылі за Вісбахам. Той «давёў» іх да адзінокага катэджа, падняўся на ганак, знік за дзвярыма.

— Ён тут жыве? — спытаў Аскер.

— Не, — сказаў Шталекер.

— Да каго ж ён прыйшоў? Стоп! — Аскер заўважыў тэлефонны дрот, які цягнуўся ад слупа да будынку, ускарабкаўся на дрэва, перарэзаў яго, спусціўся ўніз.

171

— Ота, — прашаптаў Шуберт, — абайдзіце дом наўкола.

Шталекер і Аскер каўзанулі ўбок.

— Што гэта? — ціха сказаў Шталекер.

— Машына, — адказаў Аскер. — Падыдзем бліжэй.

Яны наблізіліся да аўтамабілю.

— Машына абвера! — Шталекер сціснуў Аскеру руку.

— Усё ясна, — сказаў Аскер. — Той дом — канспірацыйная кватэра.

— Што будзем рабіць? — спытаў Шталекер.

— Перш за ўсё трэба ліквідаваць шафёра. Потым я ўвайду ў дом.

— Ідзіце, — кіўнуў Шталекер. — І прышліце сюды Шуберта. Мы... удваіх.

Аскер вярнуўся да дому, абмяняўся некалькімі словамі з Шубертам, той паспешыў на дапамогу Шталекеру.

Аскер падакраўся да акна дома. Яно было наглуха заштапоранае, толькі знізу прабівалася вузенькая палоска святла. Разведчык, прыгнуўся, намагаўся разгледзець, што робіцца ў доме, але нічога не ўбачыў.

Вярнуліся Шуберт і Шталекер. Шуберт сустрэўся з Аскерам позіркам, моўчкі кіўнуў. Аскер нарыхтаваў пісталет, падняўся на ганак, адчыніў дзверы і каўзануў у дом.

**Працяг за тыдзень**

172

# Ніва

Adres redakcji: Białystok. ul. Wesołowskiego 1.
Telefony: red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 49.
Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 łz, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma.
Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa ul. Wilcza 46. Nr konta PKO 1-6-100027.
Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $. w Europie 5 $ — w USA.
Nakład 5458 Rtk A 3

